Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

28 ЛЮТАГА 1929 г.

**№ 2 (61)**

V-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929

# ЗЬМЕСТ

Зацьверджана Народным Камісарам РСІ БССР 3 лютага 1929 г.

# І. Агульнае палажэньне пра арганізацыю і парадак работ у дзяржаўных установах.

## А. У галіне арганізацыі работы ўстаноў.

1. а) Устанавіць, што ў кожнай установе павінны быць складзены пляны працы ўстановы, агульныя для ўсяе ўстановы, а таксама для паасобных галін і каляндарныя пляны, з якіх павінны быць паказаны выканаўцы;

б) форму плянаў устанавіць арыентыровачна наступную: чарговыя №№, назва працы, зьмест працы, каму даручана, тэрмін выкананьня, узгадненьне працы, зацьверджаньне, адзнака аб выкананьні;

в) устанавіць падлік і кантроль за выкананьнем плянаў працы, які ўскласьці на сакратарыяты ўстаноў (альбо на аналёгічныя часткі ўстаноў);

г) складаючы пляны, трэба пакідаць некаторы час вольным для выкананьня пазаплянавых работ;

д) вышэйшым органам свае пазаплянавыя заданьні раней узгодніць з ведамствамі, а таксама і тэрмін выкананьня.

2. Аб зробленых абсьледваньнях ці рэвізіях складаецца кароткая дакладная запіска па пытаньнях, якія патрабуюць неадкладнага ажыцьцяўленьня ці неадкладнага націску на адпаведныя органы.

Матар'ял абсьледваньня афармляецца ў выглядзе кароткіх тэзісаў-вывадаў, якія павінны даць поўны малюнак пытаньня, што высьвятляецца, з канкрэтнымі фактамі да іх, і прапаноў. Аб рэвізіях складаюцца кароткія акты з прапановамі па іх.

3. Усе народныя камісарыяты і акруговыя ўстановы павінны выпрацаваць тыпавыя праграмы абсьледваньняў падпарадкаваных ім устаноў.

4. Усе акруговыя ўстановы павінны практыкаваць пасылку сваіх прапаноў па абсьледваньнях рэвізійным камісіям пры РВК і інш. уставам для сыстэматычнай праверкі выкананьня і, наадварот, а рэвізійныя камісіі РВК павінны пасылаць свае заўвагі адпаведным акруговым установам.

5. Усе народныя камісарыяты і акруговыя ўстановы павінны рэглямэнтаваць работу камісій, сталых нарад пры іх праз распрацоўку палажэньняў аб іх, у якіх прадугледзець парадак праходжаньня і вырашэньня пытаньняў, тэрміны вырашэньня, кантроль выкананьня і г. д.

Аналёгічнае зрабіць у калегіях народных камісарыятаў (Прэзыдыуму ВСНГ) дзе яны ёсьць.

6. З тае прычыны, што ў некаторых разох у цэнтры і на мясцох практыкуюцца адсталыя формы падліку для спрашчэньня работы рахунковага апарату прадпрыемстваў і ўстаноў, набліжэньне моманту правя-

дзеньня бухгальтэрскіх запісаў да моманту вядзеньня апрацый і максымальнай мэханізацыі рахунковай работы, установы і прадпрыемствы павінны ўзяць цьвёрды курс на адмаўленьне ад кніжных сыстэм падліку і пераход на адпаведныя картачныя сыстэмы рахункаводзтва, сыстэмы капірпадліку і інш., у залежнасьці ад характару работы.

7. Лічыць патрэбным арганізаваць сыстэматычную працу для павялічэньня кваліфікацыі канцэлярскіх работнікаў праз гурткі, курсы самаадукацыі і інш.

Устанавіць парадак, што канцэлярскія работнікі, якія прымаюцца на працу, павінны мець адпаведныя веды з найноўшых дасягненьняў адміністрацыйнай тэхнікі.

## Б. У галіне арганізацыі работы функцыянэраў і кіраваньня іх работаю.

8. У межах прысвоеных функцый, устанавіць наступныя агульныя прынцыпы арганізацыі адказных выканаўцаў (інспэктароў і падобных) у народных камісарыятах і акруговых аддзелах:

а) яны беспасрэдна падпарадкоўваюцца народнаму камісарыяту (загадч. аддзелу ці загадч. асобнай установы);

б) даюць поўную самастойнасьць у выкананьні свае агульнай і апэрацыйнай работы ў межах свае галіны работы, на падставе агульных кіруючых паказаньняў кіраўніка ўстановы;

в) беспасрэдна зносяцца з народным камісарам (кіраўнікамі ўстаноў) і пэрыядычна інфармуюць яго па сваёй галіне, а таксама ўзгадняюць з кіраўніком свае дзеяньні, распараджэньні і паказаньні падпарадкаваным установам па найбольш важных прынцыповых пытаньнях;

г) цалкам адказваюць за выканаўчую працу ў адпаведнасьці з мэтамі, задачамі і палітыкаю народнага камісарыяту (акруг. аддзелу);

д) беспасрэдна зносяцца з падпарадкаванымі ўстановамі ў штодзённай аперацыйнай рабоце, але ня ўмешваючыся і ня робячы дробнай апекі над працай устаноў.

Па пытаньнях, якія закранаюць палітыку работы ўстаноў, зносяцца разам з кіраўніком;

е) беспасрэдна зносяцца з іншымі народнымі камісарыятамі і ўстановамі па сваёй галіне працы.

Па пытаньнях, якія закранаюць найбольш важныя вузлавыя моманты работы, зносяцца разам з кіраўніком установы;

ж) у тых галінах работы, дзе ёсьць некалькі адказных функцыянэраў, работа строга разьмяжоўваецца, а таксама адзін з функцыянэраў увязвае працу іншых, калі трэба распрацоўваць абагуленыя матар'ялы з гэтых галін;

з) кожны функцыянэр павінен мець свайго намесьніка, гэта значыць, што ў курсе яго працы павінен быць другі функцыянэр, які ў разе патрэбы (хворасьці, водпуску і інш.) мог-бы яго замяніць;

і) пытаньні, якія патрабуюць узгадненьня з інш. выканаўцамі, узгадняюцца з такімі, прычым аб гэтым павінна быць адзначана ў інструкцыйных картках.

9. Агульныя прынцыпы разьмежаваньня правоў паміж кіраўнікамі і функцыянэрамі павінны быць наступныя: народны камісар (загад. аддзелу) асобнай установы дае агульныя дырэктывы і санкцыянуе толькі такія пытаньні, вырашэньне якіх зьяўляецца ажыцьцяўленьнем законадаўчых правоў народнага камісарыяту. Усе іншыя пытаньні і тлумачэньні заканадаўчых актаў народнага камісарыяту ўскладаюцца

на адказнага выканаўца, які пэрыадычна дакладвае народнаму камісару (кіраўніку ўстановы).

10. Усе народныя камісарыяты і цэнтральныя ўстановы і акр. аддзелы павінны выпрацаваць канкрэтны пералік пытаньняў, якія павінны вырашацца народным камісарам (загад аддз. установы).

Кіраваньне адказн. выканаўцамі арыентыровачна павінна складацца з дачы агульных дырэктыў выканаўцам, дачы канкрэтных паказаньняў па сутнасьці пытаньняў, канчатковае вырашэньне якіх ляжыць на кіраўніку, нагляду за выкананьнем выканаўцамі плянаў сваіх работ, праверкі правільнасьці і адпаведнасьці агульнай лініі работы выканаўцаў палітыцы дзейнасьці ўстановы, праверкі і нагляду за належнаю арганізацыяю кіраваньня і інструктажу падпарадкаваных устаноў.

11. Каб лепш арганізаваць кіраваньне работаю:

а) кіраўнікі ўстаноў павінны дакладна разьмежаваць галіны кіраваньня паміж сабою і сваімі намесьнікамі;

б) устанавіць дакладны час пэрыадычных дакладаў і інфармацый адказных выканаўцаў;

в) практыкаваць пэрыадачнае абмеркаваньне розных пытаньняў з выканаўцамі;

г) практыкаваць пэрыадачныя даклады кіраўнікоў устаноў аб агульнай працы апарату ці аб агульных пытаньнях работы на сходах работнікаў;

д) практыкаваць перадачу меркаваньняў аб лепшай рабоце апарату ці іншае на папярэднюю распрацоўку ці абмеркаваньне эканомкамісій.

12. Парадак праходжаньня пошты ўстанавіць такім чынам, каб пошта ад рэгістратуры пападала не кіраўніку ўстановы ці заг. аддзелу, а беспасрэдна выканаўцу па адпаведнай галіне працы, які ў разе патрэбы дакладвае кіраўніку. Кіраўніку беспасрэдна перадаецца пошта сакрэтная і па агульных пытаньнях, апроч тае агульнай, якая можа быць вырашана самастойна сакратаром народнага камісарыяту (акр. аддз.).

Асоба, якая разглядае і разьмяркоўвае пошту, павінна ўстанавіць тэрмін яе выкананьня, прычым што да звычайнай перапіскі, дык устанавіць трохдзённы тэрмін, а перапіска, якая патрабуе распрацоўкі—у залежнасьці ад складанасьці пытаньня, але ня больш месячнага тэрміну.

Трэба, каб дакладнае разьмежаваньне функцый усіх работнікаў знаходзілася ў атрымальнікаў пошты.

13. Парадак падпісаньня папер ва ўстановах устанавіць наступны:

а) паперы непрынцыповага характару, ці якія ідуць па вертыкалі ў падпарадкаваныя ўстановы, або накіроўваюцца ў парадку інфармацыі іншым народным камісарыятам ці ўстановам падпісваюцца толькі адказным выканаўцам (інспэктарам па сваёй галіне, сакратаром па агульных пытаньнях і г. д.);

б) паперы прынцыповага характару, або якія накіроўваюцца ў вышэйшыя ўстановы ці АВК, падпісваюцца адказным выканаўцам і кіраўніком установы ці адным кіраўніком установы;

в) дасылальныя паперы, напамінкі, апавяшчэньні наведчыкаў ці скаргнікаў аб вырашэньні іх пытаньня і інш. падпісваюцца і адпаведнымі тэхнічнымі сакратарамі альбо справаводамі і паказваюцца ў належных выпадках: „паводле даручэньня таго-та накіроўваюцца“ і г. д.;

г) у акруговых інспэкцыях падпісвае альбо інспэктар адпаведнай галіны, калі перапіска ідзе па вертыкалі ўніз ці ўверх, альбо разам з акр. інспэктарам, калі перапіска ідзе ў АВК або адпаведны народны камісарыят (па агульных пытаньнях);

д) аб паказаным распрацаваць інструкцыю, абавязаўшы акруговыя органы выконваць усе паперы, падпісаныя адказнымі выканаўцамі.

14. Вызваліць адказных выканаўцаў ад выкананьня канцэлярскай работы (захоўваньне спраў, дача аб іх даведак, падшываньне іх, вядзеньне рэестраў па розных галінах і інш.), усклаўшы гэтае на сакратарыят.

Устанавіць, што складаньне папер альбо адказаў на запытаньні, якія патрабуюць кваліфікаваных ведаў з адпаведных галін, асобна тэхнічнай тэрміналёгіі, робіцца адказн. выканаўцамі ў найбольш важных выпадках, а па менш складаных—тэхн. сакратарамі паводле рэзалюцый ці вусных растлумачэньняў адказных выканаўцаў.

Складаньне дасылальных папер ці наогул трафарэтных перапісак або па дробных пытаньнях робіцца канцылярскім складам.

15. Каб правільна разьмеркаваць функцыі паміж паасобнымі работнікамі РВК, НКУС, НКФ і НКЗ павінны выпрацаваць тыпавае разьмеркаваньне работ, дапасавальна да функцый, якія выконваюцца часткамі, зацьверджанага штату, падрыхтаванасьці работнікаў.

16. Строга рэглямэнтаваць палажэньнем функцыі частак РВК, правільна іх разьмеркаваўшы паміж апошнімі, а ўласна:

а) сканцэнтраваць у агульнай частцы РВК усе абслугоўваючыя функцыі, у тым ліку закупку і выдачу фуражу, загатоўку дроў для РВК, падлік інвэнтару і інш., вызваліўшы ад гэтае работы іншыя часткі РВК.

Іншыя раённыя ўстановы павінны падлічаць свой інвэнтар самі, а не РВК;

б) забясьпечаньне інвэнтаром падлічальных пунктаў і падлік гэтага інвэнтару ўскласьці адпаведна на ваенныя сталы РВК і загадчыкаў падлічальных пунктаў;

в) спагнаньне сум, нагляд за сваечасовым паступленьнем іх і вядзеньне для гэтага адпаведных асабовых рахункаў для камунальных прадпрыемстваў і дамоў, таксама і для дзяржаўнай зямельнай маемасьці ўскласьці на фін. часткі, пакінуўшы за аддзелам камунальнае гаспадаркі і зямельнаю часткаю падлік гэтых відаў маемасьці, эксплёатацыю яе і заключэньне дагавароў.

### В. У галіне арганізацыі канцылярскай работы.

17. Ва ўсіх народных камісарыятах і акруговых установах, дзе зроблена аб'яднаньне канцылярскіх функцый, работу гэтую злучыць арганічна, прычым паасобным канцылярскім работнікам павінна быць выдзелена пэўная галіна працы, за якую ён цалкам адказвае.

18. Усе народныя камісарыяты, цэнтральныя ўстановы, АВК і акруговыя ўстановы павінны:

а) шырока карыстацца трафарэтамі для рознай перапіскі дасылальных папер, бляндаў на выдачу даведак (даведка інвалідам), даведак па аддзелу камунальнай гаспадаркі і дазволаў на рамонт па аддзелу камунальнай гаспадаркі і інш., командыровачных, адпускных і пасьведчаньняў асобы, актаў і г. д.;

б) шырока карыстацца штампамі;

в) шырока карыстацца ў перапісцы службовымі запіскамі пад капірку з падпарадкаванымі ўстановамі;

г) паставіць належным чынам нямую і жывую даведкі.

19. Спыніць усялякую ўнутраную перапіску паміж паасобнымі функцыянэрамі або часткамі ўстановы, карыстаючыся больш жывой сувязьзю і тэлефонамі.

20. Наладзіць належны кантроль за выкананьнем пастаноў урадавых органаў і саміх устаноў.

21. Паставіць належным чынам кадыфікацыю пастаноў вышэйшых органаў, а таксама і сваіх.

22. Прыстасаваць Бюлютэнь СНК БССР для друкаваньня ў ім усіх абежнікаў, інструкцый і інш. найбольш важных распараджэньняў народных камісарыятаў і магчымага друкаваньня паасобных адбіткаў тых ці іншых матарыялаў для рассылкі іх мясцом у патрэбнай колькасьці экзэмпляраў, што пазбавіць патрэбы шматлікіх перадрукаваньняў і зьнішчыць шматлікія інстанцыі, якім адны і тыя-ж абежнікі пападаюць.

23. Цэнтральныя, акруговыя і асабліва ўсе раённыя ўстановы, РВК, страх. агенцтвы і інш. павінны ўжыць хуткія захады для разгрузкі старых сваіх архіваў праз здачу ў акруговыя архівы ўсіх тых матарыялаў за мінулыя гады, якія не патрэбны для бягучай работы і без патрэбы завальваюць архівы ўстаноў. Для таго, каб зьменшыць да мінімуму выдаткі (перавозка матарыялаў, камандыровачныя і інш.), а, галоўным чынам, у раённых установах трэба практыкаваць здачу матарыялаў часткамі (за год, два) у часе выездаў па службовых справах у акруговыя ўстановы работнікаў данай раённай установы, а таксама і работнікаў інш. раённых устаноў. РВК павінны зрабіць адпаведны загад аб гэтым, Цэнтраархіў БССР павінен прапрацаваць пытаньне аб магчымасьці мэтазгоднасьці ўтварэньня перадатачных раённых архіваў.

## Г. У галіне ўзаемаадносін з падпарадкаванымі ўстановамі і стат. работы.

24. Народныя камісарыяты і акруговыя ўстановы павінны катэгарычна зьмяніць мэтады кіраваньня падпарадкаванымі ўстановамі, спыніўшы стварэньне дробнай апекі над імі, адмовіцца ад дубліраваньня работы падпарадкаваных устаноў, канцэнтруючы, галоўным чынам, сваю работу на агульных вузлавых момантах іх работы.

25. Народныя камісарыяты і акруговыя ўстановы павінны даць падпарадкаваным ім установам належныя растлумачэньні аб ужываньні перададзеных правоў, паказаўшы з практыкі ўзаемаадносін з імі, па якіх пытаньнях ня трэба зварочвацца да вышэйшых устаноў, а вырашыць самастойна.

26. Вышэйшыя ўстановы ў дачыненьні да народных камісарыятаў і АВК і народныя камісарыяты ў дачыненьні да акруговага апарату, павінны спыніць скарыстаньне іх, як перадатачнай інстанцыі, для перасылкі літаратуры, блянкаў, абежнікаў.

У далейшым народныя камісарыяты і інш. павінны беспасрэдна рассылаць у раёны і інш. установы літарутуру, блянкі, абежнікі і інш., паведамляючы аб гэтым акруговыя ўстановы.

27. Усе народныя камісарыяты павінны да мінімуму зьменшыць колькасьць абежнікаў за лік скарачэньня недзелавых абежнікаў, якія ня маюць беспасрэднага дачыненьня да работы. Распрацоўваючы абежнік трэба браць пад увагу асаблівасьці акруг.

28. Каб паскорыць выкананьне тых ці іншых даручэньняў народных камісарыятаў і акр. устаноў, даючы даручэньні, трэба устанавіць такія тэрміны выкананьня, на працягу якіх даручэньні могуць быць сапраўды выкананы. Зжыць выпадкі дачы даручэньняў з паказаньнем тэрміну, які прашоў яшчэ да атрыманьня даручэньня на месцы.

29. Усе народныя камісарыяты, цэнтр. установы, АВК і акруговыя ўстановы павінны прасачыць за належнаю арганізацыяю якасьці кіраваньня падпарадкаванымі ўстановамі і якасьцю інструктажу.

30. У аперацыйнай справаздачнасьці, якая за народнымі камісарыятамі астаецца, упарадкаваць тэрміны і формы іх падачы, зьнішчыўшы факты атрыманьня зьвестак паасобнымі выканаўцамі таварыскімі лістамі і інш.

31. З практыкі работы паводле новых формаў справаздачнасьці (дзе яны ўстаноўлены)—народныя камісарыяты і акруговыя ўстановы павінны даваць растлумачэньні мясцовым органам аб пастаноўцы статыстычнай працы паводле новых формаў.

32. Усе акруговыя ўстановы разам з акр. стат. бюро павінны ўпарадкаваць справу з падачаю ім статыстычных зьвестак з падпарадкаваных устаноў і ім—у цэнтральныя ўстановы.

33. Паказаць кіраўнікам ведамстваў на абавязковае паведамленьне НКРСІ аб усіх выпадках доўгай затрымкі пытаньняў у органах іншых ведамстваў, калі затрымка ня ўзгоднена або калі не атрымана ад вышэйшага органу дазволу на адклад тэрміну адказу.

Адначасова з гэтым аб спрашчэньні работы разасланы ў ведамствы прапановы, якія тычацца спэцыяльна кожнага ведамства і яго пэрыфэрыі ў паасобку. Значная колькасьць усіх гэтых прапаноў павінна быць праведзена ведамствамі ў бліжэйшы час. Па тых-жа прапановах, правядзеньне якіх назначана альбо магчыма з пачаткам тае ці іншай работы, альбо ў новым бюджэтным годзе, ведамствы павінны зараз заняцца падрыхтоўчаю работаю з тым, каб прапановы поўнасьцю і без усялякай затрымкі былі сваечасова ажыцьцяўлены.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак вылічэньня пераплат з пэнсій і дапамог, што выдаюцца органамі сацыяльнага страхаваньня.

У сувязі з запытаньнямі аб парадку вылічэньня пераплат з пэнсій і дапамог, што выдаюцца органамі сацыяльнага страхаваньня, Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе тлумачэньня НКПрацы СССР (па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Сацыяльнага Страхаваньня) за 15 студзеня 1929 г. № 220/172/42, паведамляе, што: а) калі пераплаты пэнсій і дапамог, што выдаюцца ў парадку сацыяльнага страхаваньня, зроблены па віне адпаведнага органу сацыяльнага страхаваньня, дык гэтыя пераплаты ня могуць спаганяцца з зацікаўленых асоб; б) калі паказаныя пераплаты зьяўляюцца вынікам неправільных зьвестак, дадзеных у страхавыя касы застрахаванымі—яны могуць спаганяцца з зацікаўленых асоб толькі на падставе пастановы суда альбо са згоды адпаведнае зацікаўленае асобы.

З часу выданьня гэтага абежніку касуюцца ўсе раней выдадзеныя тлумачэньні аб гэтым пытаньні.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

25 студзеня 1929 г.
№ 4.

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра скасаваньне вызначаных тэрмінаў нашэньня дробнай спэцвопраткі.

На падставе пастановы НКПрацы СССР за 27 лістапада 1928 г. № 695 „Пра скасаваньне вызначаных тэрмінаў нашэньня дробнай спэцвопраткі“ („Известия НКТруда“ 1928 г., № 51/52), паводле якой дробная спэцвопратка, пачынаючы з 1 студзеня 1929 г. выдаецца да зношаньня, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Устаноўленыя пастановаю НКПрацы БССР за 15 кастрычніка 1928 г., № 67 „Пра нормы спэцвопраткі“ (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 13) тэрміны нашэньня ўсіх рукавіц, шапак, фартухоў, касынак і каўпакоў скасаваць.

II. Паказаную ў арт. I гэтае пастановы спэцвопратку выдаваць да зношаньня.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР *Д. Захарава.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

25 студзеня 1929 г.
№ 5.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра зьмену арт. 2 дадатку да тыпавых правілаў унутранага парадку для дзяржаўных устаноў, кіруючага апарату дзяржаўных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў і акцыйных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу.

Народны Камісарыят Працы, у адпаведнасьці з арт. 11 Палажэньня пра РКК, зацьверджанага НКП СССР 12 сьнежня 1928 г. („Извест. НКТ“ 1928 г. № 51/52), пастанаўляе запісаць арт. 2 дадатку да тыпавых правілаў унутранага парадку, зацьверджаных НКП БССР 23 мая 1928 г. № 38 (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 7), у наступнай рэдакцыі:

„Пакараньні накладаюцца адміністрацыяю. Пытаньне аб звальненьні за парушэньне правілаў унутранага парадку перш разглядаецца расцэначна-канфліктнаю камісіяю“.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР *Д. Захарава.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

25 студзеня 1929 г.
№ 6.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра звальненьне за нарушэньне правілаў унутранага парадку.

Паводле палажэньня пра РКК, зацьверджанага НКПрацы СССР 12 сьнежня 1928 г. („Изв НКТ“ 1928 г., № 51/52), пытаньне аб звальненьні за невыкананьне правілаў унутранага парадку перш разглядаецца расцэначна-канфліктнаю камісіяю. Паміж тым, паводле табэлі

пакараньняў, даданай да тыпавых правілаў унутранага парадку, для прамысловых прадпрыемстваў, зацьверджаных НКП СССР 19 ліпеня 1927 г. № 185 („Изв. НКТ“ 1927 г., № 32/33), пакараньні накладаюцца адміністрацыяю.

Народны Камісарыят Працы БССР, у адпаведнасьці з тлумачэньнем НКПрацы СССР за 4 студзеня 1929 г. № 150—692, паведамляе:

I. Табэль пакараньняў за 19 ліпеня 1927 г. будзе перагледжаны НКПрацы СССР.

II. Да перагляду паказанага табэля, у гэтым пытаньні трэба кіравацца „Палажэньнем пра РКК“, гэта значыць, што ў правілах унутранага парадку для прамысловых прадпрыемстваў, а таксама і для ўстаноў адпаведны арт. павінен быць зрэдагаваны, прыблізна, так:

„Пакараньні накладаюцца адміністрацыяю. Рабочыя і служачыя, нязгодныя з пакараньнем, могуць абскардзіць пакараньне ў РКК.

Пытаньне аб звальненьні павінна быць перш разгледжана ў расцэначна-канфліктнай камісіі“.

III. У чынных правілах унутранага парадку адпаведны артыкул таксама павінен быць перагледжаны ў адпаведнасьці з гэтым абежнікам.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР *Д. Захарава.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

25 студзеня 1929 г.
№ 7.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра пакараньні за дробны крадзеж маемасьці прадпрыемстваў і ўстаноў.

Для разьвіцьця ўвагі да арт. 241 Крымінальнага Кодэксу БССР., Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Крадзеж маемасьці дзяржаўнай, грамадзкай ці каперацыйнай установы альбо прадпрыемства, зроблены ўпяршыню, іх рабочымі альбо служачымі, у межах гэтых устаноў альбо прадпрыемстваў, калі пры гэтым кошт пакрадзенага не перавышае дваццаць пяць руб., выклікае дысцыплінарную меру паводле палажэньня аб парадку дысцыплінарнае адказнасьці (З. З. БССР 1928 г., № 22, арт. 223).

2. Парадак адказнасьці, устаноўлены гэтаю пастановаю, пашыраецца толькі на выпадкі ўчыненьня крадзяжу рабочым альбо служачым у межах свайго прадпрыемства альбо ўстановы, куды рабочы альбо служачы мае доступ толькі ў сувязі з выкананьнем ім працы.

Калі крадзеж маемасьці ўчынен рабочым альбо служачым з памяшканьня, куды ён мае доступ незалежна ад яго працы ў даным прадпрыемстве альбо ўстанове, дык гэтая пастанова ня ўжываецца і справы аб такіх крадзяжох разглядаюцца ў агульным судовым парадку.

3. Факт крадзяжу павінен устанаўляцца злаўленьнем на месцы злачынства альбо іншымі бясспрэчнымі довадамі, а таксама паказаньнямі навочных сьведак. У кожным выпадку крадзяжу неадкладна складаецца акт і падпісваецца адміністрацыяю і сьведкамі; акт даецца для азнаямленьня асобе, якую падазраваюць.

4. Дысцыплінарнае пакараньне накладаецца адміністрацыяю з улічэньнем усіх акалічнасьцяй справы і ў адпаведнасьці з важнасьцю ўчынку і абавязкова павінна быць абгрунтавана.

5. З часу выданьня гэтае пастановы касуецца абежнік НКП БССР за 14 кастрычніка 1926 г. № 6 „Аб накладаньні адміністрацыйнага пакараньня на рабочых і служачых дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў“ (Бюл. СНК БССР 1926 г., № 13).

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

29 студзеня 1929 г.
№ 8.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковае пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 9 кастрычніка 1928 г. № 593 „Правила устройства и содержания жилых и вспомогательных при них помещений для рабочих и служащих на торфоразработках“.**

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 78 абавязковае пастановы НКП СССР за 9 кастрычніка 1928 году № 593 „Правила устройства и содержания жилых и вспомогательных при них помещений для рабочих и служащих на торфоразработках“ („Изв. НКТруда“ 1928 г. № 44/45), пастанаўляе: увесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову НКПрацы СССР на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

14 лютага 1929 г.
№ 10.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра спагнаньне гэрбавага збору па дакумэнтах грамадзянскага стану.**

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану і фінансавым аддзелам акруговых выканаўчых камітэтаў.*

З тае прычыны, што пастановаю ЦВК і СНК СССР за 28-XI—1928 г. (З. З. СССР 1928 г., № 68, арт. 621) унесены зьмены ў аплату гэрбавым зборам некаторых катэгорый дакумэнтаў грамадзянскага стану, а таксама каб аб'яднаць усе выданыя да гэтага часу абежнікі і распараджэньні аб аплаце такіх дакумэнтаў, Народны Камісарыят Фінансаў і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануюць выконваць наступны парадак аплаты паказаных дакумэнтаў гэрбавым зборам:

1. Заявы аб рэгістрацыі, а таксама рэгістрацыя ўсіх актаў грамадзянскага стану гэрбавым зборам не аплачваюцца.

2. Пісьмовыя заявы аб выдачы першапачатковых выпісаў з кніг актаў грамадзянскага стану аб нараджэньні, шлюбе, скасаваньні шлюбу,

сьмерці і ўсынаўленьні, а таксама і самыя першпачатковыя выпісы з гэтых запісаў гэрбавым зборам не аплачваюцца.

*Увага 1.* Першпачатковымі выпісамі трэба лічыць тыя, аб выдачы якіх у кнізе запісаў актаў грамадзянскага стану няма адзнакі.

*Увага 2.* Усе выпісы, што выдаюцца з царкоўных кніг за дарэвалюцыйныя часы, трэба лічыць ва ўсіх выпадках паўторнымі, якія павінны аплачвацца гэрбавым зборам.

3. Пісьмовыя заявы аб выдачы паўторных выпісаў аб нараджэньні і сьмерці, а таксама гэтыя выпісы аплачваюцца простым гэрбавым зборам па 15 кап. кожная заява і па 15 кап. кожны выпіс.

4. Пісьмовыя заявы аб выдачы паўторных выпісаў аб шлюбу, скасаваньні шлюбу і ўсынаўленьні, а таксама гэтыя выпісы аплачваюцца простым гэрбавым зборам па 1 р. за кожную пісьмовую заяву і па 1 р. за кожны выпіс.

*Увага.* Заявы аб рэгістрацыі зьмены прозьвішча, заявы аб выдачы першапачатковых ці паўторных выпісаў аб зьмене прозьвішча, а таксама гэтыя выпісы павінны аплачвацца гэрбавым зборам па 1 руб. за кожную заяву і па 1 руб. за кожны выпіс.

5. Заявы аб папраўленьні ў запісах памылак, якія былі зроблены па віне органу ЗАГС, гэрбавым зборам не аплачваюцца.

6. Вусныя заявы, як агульнае правіла, гэрбавым зборам не аплачваюцца.

7. Зьвесткі, што паведамляюцца тым ці іншым грамадзянінам, пры вусных заявах аб выдачы выпісу ці даведак аб актах грамадзянскага стану, якія зьвесткі запісваюцца супрацоўнікам органу ЗАГС на асобнай паперы, альбо на паперы са спэцыяльным штампам, калі гэтыя зьвесткі не падпісваюцца асобамі, якія робяць вусныя заявы, гэрбавым зборам не аплачваюцца.

8. Калі грамадзянін падае пісьмовую заяву, ці заява запісваецца супрацоўнікамі органу ЗАГС са слоў грамадзяніна і падпісваецца апошнім, дык паказаныя заявы аплачваюцца гэрбавым зборам у залежнасьці ад дакумэнтаў, паводле гэтага абежніку (п. п. 1—5).

9. Гэрбавага збору не плацяць:

а) урадавыя ўстановы;

б) дзяржаўныя, у тым ліку камунальныя, прадпрыемствы, якія ўтрымоўваюцца на агульна-дзяржаўныя і мясцовыя сродкі ў каштарысным парадку;

в) Дзяржаўны Банк;

г) арганізацыі ЎсеКП(б) і УсеКСМ;

д) прафсаюзы, іх органы і аб'яднаньні;

е) сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі і іх камітэты;

ж) дамы селяніна;

з) навуковыя і культурна-асьветныя ўстановы і арганізацыі;

і) Мопр;

к) Таварыства „Чырвонага Крыжу";

л) установы с.-г. крэдыту ўсіх ступеняў, а таксама крэдытна-каперацыйныя і прамыслова-каперацыйныя арганізацыі.

*Увага.* Усе паказаныя ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі не плацяць гэрбавага збору тады, калі яны просяць аб выдачы выпісаў для сваіх патрэб, а не для перадачы прыватным асобам.

м) сьляпыя і глуханямыя, якія знаходзяцца на падліку органаў сацыяльнага забясьпечаньня і ўваходзяць членамі ў таварыствы сьляпых і аб'яднаньні глуханямых;

н) беспрацоўныя, якія атрымоўваюць дапамогу з сум сацыяльнага страхаваньня ці прызнаны, што яны маюць права на такую дапамогу, а таксама беспрацоўныя, якія атрымоўваюць дапамогу ад прафсаюзаў;

о) асобы, якія атрымоўваюць дапамогу ў парадку сацыяльнага забясьпечаньня і сацыяльнага страхаваньня і

п) вучні, якія знаходзяцца на дзяржаўных стыпэндыях.

10. У наступных выпадках выпісы з кніг актаў грамадзянскага стану гэрбавым зборам не аплачваюцца незалежна ад таго, каму яны выдаюцца, а ўласна:

а) для падачы ў органы міліцыі, каб атрымаць пасьведчаньне асобы;

б) для падачы разам з справамі пры праходжаньні вайсковай службы;

в) даведкі аб сьмерці, якія выдаюцца толькі на права пахаваньня, аб чым павінна быць адзначана ў даведцы.

11. Як агульнае правіла, органы ЗАГС, выдаючы прыватным асобам выпісы ці даведкі, павінны на гэтых дакумэнтах, што выдаюцца на рукі, адзначыць, што гэрбавы збор спагнаны і ў якім разьмеры, а калі дакумэнт гэрбавым зборам не аплачваецца, дык на якой падставе, напрыклад: „ня плоціць гэрбавага збору, як беспрацоўны“, ці „ня плоціць гэрбавага збору, як вучань“, „ня плоціць гэрбавага збору, бо атрымоўвае дзяржаўную стыпэндыю“ і г. д.

12. Гэрбавыя маркі павінны касавацца так:

а) гэрбавыя маркі наклейваюцца на дакумэнце так, каб яны былі відны ва ўсю іх вялічыню;

б) маркі наклейваюцца на пісьмовых заявах аб выдачы выпісаў, а калі выпісы выдаюцца па вусных заявах, дык маркі трэба наклейваць на тых дакумэнтах, з якіх робяцца выпісы, адзначаючы на гэтых дакумэнтах, калі і каму выдан выпіс;

в) калі на дакумэнтах ня будзе месца для наклейкі марак, то можна падклейваць да дакумэнту кавалак паперы і маркі наклейваць так, каб частка маркі была наклеена на самым дакумэнце, а частка на даклееным кавалку паперы;

г) гэрбавыя маркі касуюцца ў момант выплаты збору службоваю асобаю ўстановы, пры гэтым маркі перакрэсьліваюцца чарнілами так, каб канцы лініі перакрэсьленьня пераходзілі на тую паперу, на якую яны наклеены, а на ніжняй частцы марак ставіцца тою-самаю службоваю асобаю дзень, месяц і год скасавасьня і подпіс (прозьвішча) гэтае асобы;

д) калі касуецца некалькі марак, наклееных адна пры аднэй, дык маркі гэтыя могуць быць скасаваны адным подпісам і аднэю датаю, пры гэтым подпіс і дата павінны захапіць усе скасаваныя маркі і пераходзіць на паперу, на якую яны наклеены.

13. З часу выданьня гэтага абежніку касуюцца ўсе выданыя да гэтага часу абежнікі, распараджэньні і тлумачэньні аб парадку аплаты гэрбавым зборам актаў грамадзянскага стану.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў
БССР *Л. Бунін.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

28 студзеня 1929 г.
№ 3210—1.

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра арганізацыю збору попелу ва ўсіх школах гораду і вёскі.

*Акруговым інспэктарыятам і раённым інспэктарам народнае асьветы і ўсім школам БССР.*

У справе падняцьця ўраджайнасьці ў нашых умовах першараднае значэньне маюць розныя ўгнаеньні. Сярод іх попел зьяўляецца вельмі карысным угнаеньнем пад бульбу, лубін, канюшыну, жыта (на суглінках), ячмень і для сенажацяў. Кожныя 50 пудоў попелу на вучастку ў 1 гэктар (каля дзесяціны) павялічваюць ураджайнасьць на 15 проц. Выкідваючы попел на вецер, за плот, БССР недабірае больш мільёну пудоў жыта.

У зьвязку з гэтым Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе прапрацаваць з вучнямі школ пытаньне аб карысьці попелу (гл. газэту „Беларуская Вёска“ № 145 за 19-XII—1928 г. і інш крыніцы) і арганізаваць праз вучняў збор попелу ва ўсіх школах гораду і вёскі. Выкарыстоўваньне сабранага попелу ў гарадох узгодніць з акруговымі зямельнымі аддзеламі, у раённых цэнтрах—з зямельнымі часткамі раённых выканаўчых камітэтаў, а ў сельскіх мясцовасьцях—з сельскімі саветамі. Таксама вучні павінны зьбіраць попел і ў сябе дома для скарыстаньня яго ў сваіх гаспадарках.

Настаўнікі і іншыя асьветнікі самі і праз вучняў павінны правесьці агітацыю сярод насельніцтва за збор попелу і дапамагчы арганізацыі гэтай справы, як мага шырэй. Інструкцыі пра збор попелу можна атрымаць у акруговых зямельных аддзелах.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

25 студзеня 1929 г.
№ 15.

---

## 10. Інструкцыйны ліст Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра падрыхтоўку да вясеньняй пасеўнай кампаніі.

*Да ўсіх органаў народнае асьветы, саюзных арганізацый і працаўнікоў асьветы.*

Задачы, пастаўленыя Камуністычнай партыяю і Савецкаю ўладаю: індустрыялізацыя краіны і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі на грунце новай тэхнікі, забясьпечаньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак новымі прыладамі вытворчасьці, падняцьце іх ураджайнасьці і паступовае аб'яднаньне ў грамадзкія калектыўныя гаспадаркі, утварэньне і разьвіцьцё магутных савецкіх гаспадарак,—зьяўляюцца галоўнымі задачамі нашага сацыялістычнага будаўніцтва, вакол якіх павінна быць згуртавана дзейнасьць шырокіх працоўных мас.

Без павялічэньня тэмпу разьвіцьця сельскай гаспадаркі, якая дае для прамысловасьці сырэц і спажывецкія прадукты, ня можа належным чынам разьвівацца прамысловасьць.

Між тым разьвіцьцё сельскай гаспадаркі вельмі адстае ад росту прамысловасьці і з вялікаю напруджанасьцю задавольвае запатрабаваньні

краіны, што ўсё павялічваюцца, не забясьпечваючы дастатковa сырцовай, спажывецкай і экспартнай базы.

Пастановы Савету Народных Камісараў БССР аб падняцьці ўраджайнасьці за пяцігодзьдзе асноўных збожжавых культур на 45 проц., а ў савецкіх гаспадарках—на 70 проц., у калектыўных гаспадарках—на 60 проц., тэхнічных культур—на 55 проц. і іншых ня менш як на 20 проц., а таксама аб пашырэньні пасеўнай плошчы ў бягучым годзе на 7 проц., зьяўляюцца баявою задачаю Савецкай дзяржавы ў справе ўзмацненьня тэмпу індустрыялізацыі краіны і павялічэньня росту сельска-гаспадарчай прадукцыі, асабліва збожжавай часткі.

Гэтую задачу партыя і савецкая ўлада змогуць выканаць толькі апіраючыся на творчасьць, самадзейнасьць і актыўнасьць шырокіх працоўных мас.

Вясеньняя пасеўная кампанія бягучага году павінна зьявіцца пачаткам магутнага і ўпартага наступу ўсяе краіны ў змаганьні за калектывізацыю, падняцьце ўраджайнасьці і пашырэньне пасеўнай плошчы.

Абавязак органаў народнае асьветы, усіх працаўнікоў асьветы і іх прафэсіянальных арганізацый ўзьняць актыўнасьць шырокіх працоўных мас, дапамагчы іх самадзейнасьці і творчай ініцыятыве ў гэтай справе.

Удзел кожнага асьветніка, асабліва на вёсцы, у падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі перш-за-ўсё павінен выявіцца ў стварэньні грамадзкай думкі вакол патрэбы ўжываньня насельніцтвам агракультурных мерапрыемстваў, што спрыяюць падняцьцю ўраджайнасьці.

Такімі мерапрыемствамі зьяўляюцца:

1) засеў палепшаным насеньнем,

2) ачыстка і гатунковасьць насеньня,

3) зьнішчэньне межаў,

4) змаганьне з шкоднікамі і пустазельлем,

5) ужываньне палепшаных прыёмаў апрацоўкі глебы,

6) спыненьне пашы жывёлы на азімых і на сенажацях раньняю вясною і позьняю восеньню,

7) палепшаньне ўмоў утрыманьня і кармленьня жывёлы,

8) больш поўнае скарыстаньне інвэнтару сялянскіх гаспадарак, калектыўных і савецкіх гаспадарак, пракатных пунктаў і рамонтных майстэрняў,

9) як мага больш шырокае ўжываньне штучнага ўгнаеньня (фасфарытнай мукі, вапны, попелу, лубіну), стварэньне кампосных кучаў і г. д.

Адначасова Народны Камісарыят Асьветы і ЦП Саюзу Працаўнікоў Асьветы раюць органам народнай асьветы і прафсаюзным арганізацыям, на аснове ўлічэньня мясцовых асаблівасьцяй, наступныя формы ўдзелу асьветнікаў і культасьветных устаноў у вясеньняй пасеўнай кампаніі:

1. На працягу лютага зрабіць сходы настаўнікаў і працаўнікоў палітасьветы па прынцыпу першапачатковых настаўніцкіх аб'яднаньняў, на якіх распрацаваць:

а) саюзны закон і пастанову Савету Народных Камісараў БССР аб падняцьці ўраджайнасьці;

б) мясцовы плян правядзеньня пасеўнай кампаніі;

в) вызначыць шэраг практычных мерапрыемстваў аб месцы і ўдзелу школы і палітасьветнай установы ў кампаніі на падставе мясцовага пляну, для больш паглыбленага вывучэньня гэтага пытаньня, скарыстаць чарговыя раённыя канфэрэнцыі асьветнікаў, дэлегацкія сходы і нарады.

2. Удзельнічаць у канфэрэнцыях раённага савецкага актыву па пытаньнях пасеўнай кампаніі.

3. Школа, як калактыў, і палітасьветныя ўстановы ў правядзеньні агракультурных мерапрыемстваў у раёне свае дзейнасьці павінны заняць пэўнае месца:

а) высьвятляць пытаньні сельскай гаспадаркі і пасеўнай кампаніі на школьных радах, бацькоўскіх і вучнёўскіх сходах, сярод чытачоў бібліятэк, у народных дамох, хатах-чытальнях і чырвоных кутках і на вясковых сходах;

б) завострыць увагу настаўніцтва на патрэбы падрыхтоўкі вучняў усіх школ, якія-б зьявіліся штурхачамі, агітатарамі сярод насельніцтва за ўжываньне агрыкультурных мерапрыемстваў, для чаго ў заняткі ўносіць элемэнты практычных паказаньняў палепшаньня сельскай гаспадаркі;

в) ужыць усе захады да сапраўднага скарыстаньня прышкольнага зямельнага вучастку, як дасьледчага і, па магчымасьці, і паказальнага;

г) рабіць аграпаходы (экскурсіі) у сады, гароды, на сенажаці і ў поле для правядзеньня тае ці іншае аграпрацы (змаганьне з пустазельлем, шкоднікамі і інш.);

д) рабіць экскурсіі з вучнямі ў лепш пастаўленыя сялянскія гаспадаркі, якія папулярызаваць сярод навакольнага насельніцтва, выкарыстоўваючы іх дасягненьні, а таксама ў зернаачышчальныя пункты, аграпункты, дасьледчыя станцыі, савецкія і калектыўныя гаспадаркі для практычнага асьведамленьня вучняў аб розных агранамічных мэтадах сельска-гаспадарчых працэсаў, каб сапраўды пераканаць у мэтазгоднасьці і карысьці розных агра-мерапрыемстваў;

е) у школах, народных дамох і хатах-чытальнях праводзіць з насельніцтвам чытаньне агранамічных артыкулаў і кніжак з гутаркамі на адпаведныя тэмы, вечары аграпытаньняў, агітвечары з дакладамі, прыцягваючы і ўзбуджаючы ўвагу сялянства да пашырэньня пасеўнай плошчы і падняцьця ўраджайнасьці свае гаспадаркі;

ж) арганізаваць пры школах сельска-гаспадарчыя бібліатэкі і прасоўваць скарыстаньне іх насельніцтвам;

з) школы гораду ў парадку культшэфства наладжваюць патрэбную сувязь з вёскаю для правядзеньня практычных мерапрыемстваў па калектывізацыі сельскай гаспадаркі, падняцьця ўраджайнасьці і пашырэньня пасеўнай плошчы.

4. Акадэмія, сельска-гаспадарчыя тэхнікумы, прафшколы, агра-пэдтэхнікум і школы сялянскай моладзі разам з мясцовымі партыйнымі, савецкімі і каперацыйнымі арганізацыямі і агра-вучасткамі павінны вызначыць раён свае дзейнасьці і скласьці канкрэтны плян падняцьця яго ўраджайнасьці, падпарадкаваўшы ўсю сваю дзейнасьць ажыцьцяўленьню гэтага пляну, маючы на ўвазе згуртаваць работу студэнтаў і вучняў у сялянскіх гаспадарках, у першую чаргу — бядняцкіх.

5. У гэтую вясеньнюю пасеўную кампанію адзначаныя ўстановы павінны:

а) правесьці нарады сялянскага актыву па пытаньнях пасеўнай кампаніі;

б) узмацніць работу бліжэйшых сельска-гаспадарчых гурткоў праз прымацаваньне да іх больш актыўных студэнтаў і вучняў;

в) вылучыць ударныя брыгады для зернаачысткі;

г) арганізаваць пратручвальны пункт і пракат сельска-гаспадарчых машын і прыладаў пры вучастковых гаспадарках, абслугоўваючы ў першую чаргу бядняцкія гаспадаркі;

д) арганізаваць абмен лішку гатунковага насеньня вуч. гаспадарак на насеньне сялян.

6. Пералічаныя ў п. 4 установы павінны арганізаваць агратэхнічную дапамогу бліжэйшым каляктыўным гаспадаркам для правядзеньня мерапрыемстваў па пытаньні падняцьця ўраджайнасьці, таксама і для складаньня арганізацыйных і вытворчых плянаў гэтых гаспадарак.

7. Разам з практычнаю работаю для падняцьця ўраджайнасьці ў прымацаваных раёнах Акадэмія, тэхнікумы і прафшколы павінны стаць асяродкам кансультацыйна-інструктарскай работы для нізавых культурна-асьветных устаноў свайго раёну і базамі для курсаў—практыкумаў па сельска-гаспадарчай падрыхтоўцы вясковага настаўніцтва, хатнікаў і вясковага актыву.

8. Індустрыяльныя тэхнікумы, прафтэхшколы і навучальныя майстэрні ў пэрыяд вясеньняй пасеўнай кампаніі павінны арганізаваць у парадку свае вытворчай практыкі і грамадзкай працы брыгады для рамонту сельска-гаспадарчых машын (па сабекошту) у раёнах, вызначаных імі разам з савецкімі органамі і грамадзкімі арганізацыямі.

9. Пэдагагічныя тэхнікумы перад дасылкаю студэнтаў 4 курса на месячную практыку павінны праводзіць для іх каротка-тэрміновыя курсы па падняцьці ўраджайнасьці для агрыкультурнай дапамогі насельніцтву ў час практыкаваньня.

10. На палітыка-асьветныя ўстановы вёскі ўскладаецца абавязак:

а) азнаёміць усё працоўнае насельніцтва вёскі з пастан вамі Саюзнага Ўраду і Савету Народных Камісараў БССР аб падняцьці ўраджайнасьці і з канкрэтнымі плянамі акругі і раёну;

б) разгарнуць шырокае растлумачэньне (чытаньне, гутаркі, арганізацыя куткоў, работа гурткоў) найбольш ударных у даным раёне аграмерапрыемстваў;

в) аб'яднаць аграпрапаганду з шырокаю палітычнаю работаю сярод беднаты і серадняцкага сялянства для забясьпечаньня правільнай клясавай лініі ў скарыстаньні тых сродкаў, якія будуць накіраваны дзяржаваю на вёску для падняцьця ўраджайнасьці (машыны, насеньне, крэдыт, кантрактацыя і г. д.);

г) паставіць сыстэматычную інфармацыю насельніцтва па пытаньнях: „Што пішуць у газэтах аб сельскай гаспадарцы“;

д) бібліятэкам павялічыць перасовачны фонд праз падбор і набыцьцё папулярнай сельска-гаспадарчай літаратуры, якую прасоўваць у найбольш адлеглыя вёскі.

11. Трэба ўзмацніць існуючую сетку сельска-гаспадарчых гурткоў, надаць іх рабоце яскрава вызначаны практычны характар, укараніць у іх праграмы прапаганду каляктывізацыі сельскай гаспадаркі, уцягнуць усіх членаў гурткоў у актыўны ўдзел у сельска-гаспадарчых вытворчых нарадах, канфэрэнцыях і зьездах па падняцьцю ўраджайнасьці.

12. Работа вячэрніх сялянскіх курсаў павінна быць згуртавана на вывучэньні і прапагандзе патрэбных агрыкультурных мерапрыемстваў для падняцьця ураджайнасьці.

13. Пры ўсіх бібліатэках на вёсцы зрабіць выстаўкі кніг па сельскай гаспадарцы і праводзіць у хатах сялян чытаньне газэт і часопісаў па пытаньні вясеньняй пасеўнай кампаніі, прыцягнуўшы для гэтага моладзь і жаночы актыў.

14. На ўсіх лікпунтах правесьці гутаркі па пытаньнях вясеньняй пасеўнай кампаніі.

15. Высьвятляць пытаньні пасеўнай кампаніі ў насьценных газэтах і ў друку.

16. Увязаць усю работу асьветнікаў і культасьветных устаноў па пасеўнай кампаніі з савецкімі і грамадзкімі арганізацыямі на вёсцы.

Народны Камісарыят Асьветы і Цэнтральнае Кіраўніцтва Саюзу Працаўнікоў Асьветы ўпэўнены, што працаўнікі асьветы з посьпехам выканаюць ускладзеныя на іх партыяю і савецкаю ўладаю абавязкі па правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Нам. Народнага Камісара Асьветы *С. Слонім.*

За Старшыню Цэнтральнага Кіраўніцва
Саюзу Працаўнікоў Асьветы *Мельнік.*

26 студзеня 1929 г.
№ 2.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра прыраўнаньне дзяцей членаў Усесаюзнага Т-ва Паліткатаржнікаў Ссыльна-Пасяленцаў пры паступленьні ў навучальныя ўстановы да дзяцей рабочых.

На падставе пастановы СНК СССР (прат. № 3/290 за 1929 г.) Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

Абавязаць усе навучальныя ўстановы БССР прымаць дзяцей членаў Усесаюзнага Т-ва Паліткатаржнікаў і Ссыльна-Пасяленцаў на аднолькавых умовах з дзяцьмі рабочых.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

12 лютага 1929 г.
№ 46.

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра дапаўненьне інструкцыі НКУС і НКЮ БССР „Пра аднаўленьне згубленых дакумэнтаў“.

Бяручы пад увагу, што членскія і заборныя кніжкі каперацыйных арганізацый не далучаюцца да дакумэнтаў, прадугледжаных інструкцыяю НКУС і НКЮ БССР за 15 кастрычніка 1928 г. № 5583—1 „Пра аднаўленьне згубленых дакумэнтаў,“ Народныя Камісарыяты Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР пастанаўляюць: дадаць да інструкцыі НКУС і НКЮ БССР № 5583—1 за 15 кастрычніка 1928 г. „Пра аднаўленьне згубленых дакумэнтаў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 13) артыкул 7 ў наступнай рэдакцыі:

„7. Правілы гэтай інструкцыі не пашыраюцца на членскія і заборныя кніжкі каперацыйных арганізацый. Правілы пра аднаўленьне такіх кніжак устанаўляюцца цэнтральнымі каперацыйнымі аб‘яднаньнямі“.

Нам. Народнага Камісара Унутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР *С. Гохман*

26 студзеня 1929 г.
№ 77—2/8

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю і Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

**пра абавязковую здачу ўсімі дзяржаўнымі і каперацыйнамі арганізацыямі мяздры для вытворчых мэтаў клеяварна-жалацiннага заводу Белгарбтрэсту.**

Каб забясьпечыць сырцом клеяварна-жалацінны завод Белгарбтрэсту, які вырабляе экспартную прадукцыю, Народны Камісарыят Гандлю і Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР пастанаўляюць:

1. Абавязаць усе дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, якія займаюцца перапрацоўкаю скуранага сырцу, увесь выхад мяздры здаваць у абавязковым парадку Белгарбтрэсту.

2. Паказанымі ў п. I гэтае пастановы арганізацыямі мяздра здаецца Белгарбтрэсту на падставе сталых дагавароў арганізацый з Белгарбтрэстам.

3. Цэны на мяздру вызначаюцца ў парадку камэрцыйнай дагаворанасьці Белгарбтрэсту з арганізацыямі, паказанымі ў п. I гэтае пастановы.

4. Абавязаць Белгарбтрэст і паказаныя ў п. 1 арганізацыі на працягу 2-х тыдняў заключыць сталыя дагаворы на здачу Белгарбтрэсту ўсяго выхаду мяздры ў 1928-29 г.

5. Адказнасьць за здачу Белгарбтрэсту ўсяго выхаду мяздры паказанымі ў п. 1 гэтае пастановы арганізацыямі ўскладаецца пэрсанальна на кіраўнікоў апошніх, а адказнасьць за скарыстаньне мяздры на вытворчыя патрэбы заводу—на Дырэктара Белгарбтрэсту.

Народны Камісар Гандлю БССР *Н. Аксючыц.*

Старшыня Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

25 студзеня 1929 г.
№ 14.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра дапаўненьне сьпісу тавараў, угоды на якія вызвалены ад абавязковай пазабіржавой рэгістрацыі.**

На падставе ўвагі да арт. 2 пастановы Савету Працы і Абароны за 6-VIII—1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 47, арт. 484), Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

I. Для папаўненьня сьпісу № 1 тавараў, угоды на якія вызвалены ад абавязковай пазабіржавой рэгістрацыі, зацьверджанага Народным Камісарыятам Гандлю СССР 6 мая 1927 г. і да пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 20 лістапада 1928 г. № 6 (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 14 (57), арт. 14) вызваліць ад абавязковай пазабіржавой рэгістрацыі:

а) тавары спэцыяльна сельска-гаспадарчага забясьпечаньня (с.-г. трактары, косы, граблі, сярпы, угнаеньні, гатунковае насеньне, садовагародніцкія інструмэнты і абсталяваньне для першай апрацоўкі с.-г. прадуктаў);

б) апал (апроч драўніны): нафтавыя рэшткі, апалавы мазут, маторны апал, марскі мазут, торп, каменны вугаль, кокс, антрацыт);

в) узрыўныя рэчы і прылады для ўзрыўных работ;

г) рознае: сьпірытус натуральны і ачышчаны, хлебнае віно, пасуда і тара з пад іх—па ўгодах Цэнтрасьпірту і яго мясцовых аддзяленьняў з дзяржаўнымі і каперацыйнымі арганізацыямі, канцылярскія прылады—па ўгодах з школамі ці іншымі навучальнымі і выхаваўчымі ўстановамі, геаграфічныя і топаграфічныя карты.

*Увага.* Гэтая пастанова ня тычыцца імпортных тавараў.

II. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

Нам. Народнага Камісара Гандлю
БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР *Дзьвіндзенка.*

9 лютага 1929 г.
№ 15.

---

Адказны Рэдактар **І. Фрыдман.**

